

Падтрымаць Радзіму → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Уцячы ад заразы → 4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 28 (3348) Год LXV | Беласток, 12 ліпеня 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# Як будзе з лесанасаджэннямі на лугах і палях?

**Сельскагаспадарчыя палі ў наваколлі Белавежскай пушчы нашы продкі здабывалі выпальваючы і высякаючы лес. На іх вырошчвалі збожжавыя культуры і пасвілі хатнюю жывёлу, карыстаючыся таксама дабрадзействамі суседняй пушчы. З сельскагаспадарчай прадукцыі жылі нашы прадзеды, дзяды, бацькі і наша пакаленне выхадцаў з вёсак. Аднак зараз на Гайнаўшчыне штораз менш ахвотных гаспадарыць на землях горшай якасці. Цяпер у наваколлі Белавежскай пушчы бачым адваротны працэс, калі сельскагаспадарчыя палі планава насаджваюцца лесам. Лугі і ворыва, якія яшчэ нядаўна выкарыстоўваліся для сельскагаспадарчых мэт, аблясяюцца таксама натуральна, без дапамогі чалавека. Аднак эксперты прадугледжваюць, што па прычыне вялікіх змен у клімаце будуць штораз часцей засыхаць у лясах елкі, а пасля і сосны. Іх якраз найбольш садзілі ўласнікі палёў згодна з планамі, распрацаванымі ў надлясніцтвах. Сохнуць таксама іншыя гатункі дрэў, перш за ўсё тыя, якія любяць падмоклы грунт.**

— Вакол нашай вёскі раней амаль усюды былі лугі, на якіх мы пасвілі кароў і сушылі сена, і палі, якія мы аралі і сеялі збожжа, садзілі бульбу і вырошчвалі кармавыя культуры. Зараз у розных месцах вакол Тапароў можна ўбачыць маладняк, а некаторыя палі таксама сталі парастаць самасеем. Зараз каля дарогі з нашай вёскі ў Маліннікі знаходзіцца многа новых лесапасадак. Нядаўнія лугі і ворыва пераўтварыліся ў лес. Раней паміж Тапарамі і Грабаўцом былі сельскагаспадарчыя землі, а зараз на працягу некалькіх кіламетраў расце лес, які быў пасаджаны яшчэ перад даплатамі з еўрабюджэту да лесанасаджэнняў. Лясы растуць таксама на лугах і палях суседніх Сакоў і Залешан, — стала расказваць **Людміла Мрук** з Тапароў Кляшчэлеўскай гміны. — Зараз мы паволі вяртаемся да таго, што было ў мінулым, калі рос тут лес. Нашы продкі высякалі дрэвы ў пушчы, каб на здабытых такім спосабам землях пачаць сеяць збожжа і вырошчваць іншую расліннасць. Пераўтварыць стары лес у поле было вельмі складана. Гэта займала многа часу і патрабавала цяжкай працы. Нашы дзяды пераказвалі ўспаміны сваіх продкаў з часоў, калі ў нас рос стары пушчанскі лес. Яго высеклі і стварылі сельскагаспадарчыя палі. Адваротны працэс пачаўся прыблізна сто гадоў таму назад, калі ў выніку бежанства запушчаныя палі натуральна аблясіліся. Не ўсе бежанцы вярнуліся дамоў і тады нашы жыхары не рашыліся высякаць дрэў на іх палях горшай якасці. Ад пясчаных участкаў пачалі натуральна аблясіцца суседнія палеткі. Сялянам патрэбна была тады драўніна ў якасці будаўнічага матэрыялу і перш за ўсё апалу. Аднак гэтых участкаў з лесам не было ў нас многа. Усе лугі і палі выкарыстоўваліся для сельскагаспадарчых мэт.

З Тапароў не было блізка ў Белавежскую пушчу, куды сяляне пастаянна ездзілі за дровамі. Высякалі яны дрэвы на апал у прыватных лясах. Цяперашняе аблясенне лугоў і палёў у Тапарах пачалося на зломе мінулага і цяперашняга стагоддзяў.

— Адзін з нашых гаспадароў пасадзіў лес на частцы сваіх палёў і нават на лузе, дзе зямля не была найгоршай якасці. Тады таксама іншыя гаспадары сталі садзіць лес на палях і лугах, дзе вельмі слаба расло збожжа і знікала трава. Аднак гэта не былі яшчэ вялікія арэалы. Мы гадоў дваццаць таму таксама пасадзілі лес на невялікіх участках за свае грошы. Гэты працэс спыніўся разам з далучэннем Польшчы да Еўрасаюза і ўвядзеннем даплат да сельскагаспадарчай прадукцыі. Тады нашы вяскоўцы, якія мелі ўжо нават спыняць сельскагаспадарчую прадукцыю, рашыліся прадаўжаць гаспадаранне дзеля атрымання даплат, — сказала Людміла Мрук.

Аднак з еўрасаюзнага бюджэту сталі тады выплачвацца таксама сродкі на куплю саджанцаў, пасадку, дагляданне за новымі лесанасаджэннямі і на іншыя расходы, а таксама на прэмію за немагчымасць далейшага выкарыстання лугоў або ворыва дзеля сельскагаспадарчай прадукцыі. Аднак гэтая прэмія належалася толькі асобам, у якіх быў невялікі даход з сельскагаспадарчай прадукцыі або была невысокая заработная плата.

— Я таксама пасадзіў раней без даплаты лес на частцы свайго пясчанага поля, паколькі там плён быў вельмі слабы. Пазней рашыўся аблясіць вельмі слабое поле, калі сталі ўжо даваць грошы на куплю саджанцаў і на дагляданне за лесанасаджэннямі на працягу пяці гадоў. Таксама ў выпадку гэтай лесапасадкі трэба ўжо было дакладна трымацца плана, які быў апрацаваны ў надлясніцтве. Запланавалі, каб я на частцы поля пасадзіў дубы і я мусіў трымацца гэтага. Лясная звярына з'ядала маладыя дубочкі, а я мусіў іх насаджваць нанова і так паўтаралася, — расказаў пенсіянер з Тапароў, які свае лугі і ворыва перадаў на ўласнасць дзецям. — Пазней елкі і сосны на новых пасадках сталі месцамі сохнуць, так як сохнуць у пушчы і ў старых лясах. Здараецца, што сохнуць таксама маладыя бярозкі. Мяркую, што гэта ўсё адбываецца з-за нізкага ўзроўню вады ў глебе.

Хаця апошнім часам падаў часта дождж і не даваў гаспадарам добра высушыць сена, то не здараліся аблажныя дажджы і ўзровень вады ў глебе на палях вёскі Тапары надалей застаўся невысокім. У адным калодзежы майго суразмоўцы амаль не засталося вады, а ў другім — узровень вады зараз намнога ніжэйшы, чым быў у час мінулагодняй засухі.

— У вывернутых моцным ветрам елак бачна, што іх каранёвая сістэма — паверхневая, разыходзіцца ў бакі і састаўляе вялікае кола. Елкі сохнуць з-за таго, што іх карэнне найхутчэй адчувае недахоп вады. Паніжаецца іх імунітэт супраць шкоднікаў і таму карэды так лёгка нішчаць елкі ў нашых лясах. Карэнне іншых дрэў ідзе намнога больш у глыбіню глебы і таму яны лепш трымаюцца ў час засухі. У нашых лясах сталі сохнуць не толькі елкі і сосны, але таксама лістоўніцы і нават бярозы, што сведчыць аб вельмі нізкім узроўні вады ў глебе. Мы стараемся высякаць сухія елкі і сосны на дровы. Засохлых дрэў у лясах зараз так многа, што іх дастаткова для абагрэву дамоў. Здаровыя дрэвы пакідаем расці або выкарыстоўваем у якасці будаўнічага матэрыялу, — распавёў жыхар Тапароў.

Апошнія ападкі дажджу моцна абмежавалі небяспеку пажараў у лясах. Аднак, каб памяняць гідралагічныя ўмовы ў лясах і павысіць узровень вады ў глебе патрэбныя інтэнсіўныя і працяглыя дажджы.

— Так скупой у снег зімы я не памятаю за час усёй маёй працы. Калі не будзе праліўных і доўгіх дажджоў у бліжэйшай будучыні, будзем лічыць вялікія страты, — заявіў начальнік Аддзялення лясной гаспадаркі Генеральнай дырэкцыі Дзяржаўных лясоў Кшыштаф Ростэк. Лічыць ён, што сёлетняя бясснежная зіма давяла да вялікага выпрабавання дрэвы ў нашых лясах, узмацняючы засуху, якая ад пяці гадоў вельмі адмоўна ўздзейнічае на лясы. Сохнуць елкі і хутка слабнуць іншыя гатункі дрэў, а прапрываць засуху змагаецца 300 мільёнаў новапасаджаных у Дзяржаўных лясах дрэўцаў, якім апошнія дажджы кароткатрывала моцна дапамаглі.

— Засуха спрычыняецца да абмежавання трываласці елак і на нізінных тэрыторыях сохнуць яны не толькі ў Польшчы, але і ў іншых краінах цэнтральнай Еўропы. У елак плыткая карэнняя сістэма і без доступу да вады моцна паніжаецца іх імуналагічная сістэма і яліна не ў змозе супрацьстаяць грыбам, карэедам і іншым шкоднікам, — мяркуе начальнік Аддзялення лясной гаспадаркі Генеральнай дырэкцыі ДЛ **Кшыштаф Ростэк**. — Сярод спецыялістаў ідзе дыскусія, ці на тэрыторыях, дзе масава насаджвалася яліна па эканамічных прычынах і дзе зараз яна таксама масава расце, не вырэзваць частку елак у хуткім часе, каб паспець перад карэедамі, якія яшчэ там не паявіліся. Аднак эксперты не рашаюцца прапанаваць такое, каб не выклікаць супраціву грамадскай думкі.

Начальнік Аддзялення лясной гаспадаркі Генеральнай дырэкцыі ДЛ Кшыштаф Ростэк удакладніў, што ў дзяржаўных лясах прадбачваецца ўжо адыходзіць ад пасадак елак і абмежаваць пасадку сосен. У дзяржаўных лясах на больш якасных землях прадбачваецца садзіць больш дубоў, букаў, піхтаў і вязаў. Адначасна прадугледжваецца, што саджанцы павінны вырошчвацца на месцы, каб былі ўстойлівымі на мясцовыя хваробы. Улічваючы змены ў нашым клімаце падобны напрамак павінен адбывацца ў плане пасадак у прыватных лясах. Аднак згодна з абавязваючымі законамі нельга аблясяць лугоў і палёў добрай якасці, а на сельскагаспадарчых землях горшай якасці складана будзе садзіць і вырошчваць гатункі дрэў прызначаныя для пасадак на дабраякасных землях.

— Апошнімі гадамі, калі яшчэ выплачваюцца даплаты да сельскагаспадарчай прадукцыі, вельмі рэдка нашы вяскоўцы рашаліся садзіць лес з выкарыстаннем еўрасаюзнай датацыі. Абрабляюць яны палі самі або з дапамогай суседзяў, косяць траву на лугах і не патрабуюць дадатковай драўніны з новапасаджаных лясоў, паколькі хапае ім драўніны са старэйшых лясоў. Аднак калі б спынілася выплачванне дапамогі з еўрасаюзнага бюджэту да сельскагаспадарчай прадукцыі, тады нашы жыхары могуць пачаць аблясяць частку сваіх лугоў і палёў. У нас жа нерэнтабельнай стане іх апрацоўка без даплат, а землі ў нас у асноўным слабой якасці, — мяркуе мой суразмоўца з Тапароў.

Працэс лесанасаджэнняў на лугах і палях Гайнаўшчыны ў будучыні могуць спыніць змены ў клімаце і агульнаеўрапейская засуха, калі могуць больш масава сохнуць таксама дрэвы ў прыватных лясах. У наваколлі Белавежскай пушчы яшчэ і карэеды могуць заатакаваць елкі ў прыватных лясах, калі тыя падрастуць, што масава адбываецца ўжо зараз у пушчы.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**





# Невясёлыя анекдоты

Даўно не пачынаў фельетона з анекдотаў. Хіба трэба для разнастайнасці зноў хоць адзін раз разбавіць чытачоў анекдатычнай тэматыкай. Як казаў герой вельмі філасофскага фільма „Усё той жа Мюнхгаўзен”, уся праблема многіх людзей у тым, што ў іх занадта сур'ёзны выразы твару. А ўсе на свеце подласці робяцца менавіта вось з такімі сур'ёзнымі абліччамі. Ну а анекдот — добры сродак для разбаўлення звышсур'ёзнасці выразаў чалавечнасцю.

Гэта, пры ўмове, што анекдот вясёлы. Ну а якім жа ён мусіць быць?! Ясна, што вясёлым. На тое ён і анекдот.

Палез я, значыць, у сеціва, каб паглядзець, як і пра што зараз жартуюць людзі на свеце. На захадзе ад Беларусі на першае месца сталі выходзіць анекдоты пра чай і „Мэрсэдэс”. Маўляў, зараз, нельга гаварыць на чорную гарбату, што гэта чорная гарбата. Не талерантна стала ўжываць слова „чорны”. Таму на чорны чай трэба казаць „не зялёны чай”, „не чырвоны чай” і „не белы”. І чалавек сам здагадаецца, што гаворка ідзе пра чорны. Словы зялёны, чырвоны і белы ўжываць пакуль не забараняецца.

Ну а з „Мэрсэдэсам” увогуле ўсё проста і лёгка. Фірма „Мэрсэдэс-бэнц” нібыта перастае выпускаць некалі знакамітыя чорныя мадэлі сваіх аўто, бо хопіць, маўляў, ужо ездзіць на чорных. Колькі можна?! На белых пакуль што ездзіць можна.

На ўсходзе ад Беларусі, у Расіі значыць, анекдоты зусім іншыя. Ну які там чай ці „Мэрсэдэс”?! Тым больш „бэнц”. У іх там свой поўны „бэнц”! Там кіраўнік расійскай дзяржавы мяняе Канстытуцыю Расійскай Федэрацыі і тым самым абнуляе ўсе свае прэзідэнцкія тэрміны. Скасоўвае іх, значыць, і зможа зноў пачынаць прэзідэнцтва з нуля.

Дарэчы, гэта вельмі зручная мадэль, некалі апрабаваная ў Беларусі яшчэ ў далёкім 1996 годзе. Расія ідзе з адставаннем ад Беларусі ў дваццаць чатыры гады, але ідзе ўпэўнена. Вось і анекдоты там пайшлі ў гэтым жа рэчышчы, што і абраны шлях.

Маўляў, прэзідэнт вырашыў памяняць Канстытуцыю, бо Канстытуцыя настойвала, каб мянялі прэзідэнтаў.

Коратка і зразумела! У лепшых традыцыях анекдатычнага жанру.

Вось і атрымліваецца, што хто каго змог, той таго і памяняў. Хто скажа, што гэта несправядліва?! І цяпер ужо былыя прэзідэнцкія тэрміны абнуляюцца, скасоўваюцца значыць, не ўлічваюцца, і новы тэрмін прэзідэнцтва будзе лічыцца першым.

Дык вось пра тое абнуленне прэзідэнцкіх тэрмінаў, ці проста абнаўленне, новы анекдот, які хіба жанчынам вельмі спадабаецца. Даўно не чуў такіх чыста жаночых жартаў.

Ляжаць, значыць, двое закаханых у ложку. І тут дзяўчына нечакана заяўляе свайму любаму, што ён у яе першы. Хлопец здзіўляецца, прыглядае свайго каханай, што тая неяк не так даўно была прызналася яму, што да яго ў яе было яшчэ пара-тройка мужчын. І нават некалькі жанатых. На што дзяўчына з чыстым поглядам, чыстым сумленнем і чыстым голасам адказвае:

— А я іх абнуліла. Скасавала значыць. Таму зараз ты першы. Радуйся.

Ну але пяройдзем нарэшце да Беларусі. Тут ужо даўно ўсё абнулілі што можна і нават на чорным „Мэрсэдэсе” катацца. І раптам у сеціве натыкаюся на новы беларускі анекдот на гэту тэму. Гучыць проста, адным сказам: „Ад чорнага „Мэрсэдэса” да чорнай гарбаты адзін крок, калі гэты крок ты зрабіў у бок прэзідэнцкага крэсла.

А затым і другі анекдот вымалёўваецца. Пытаецца, значыць, адзін беларус у другога:

— Што гэта так шмат людзей міліцыя затрымліваць стала?

— Дык у нас жа зараз этап праверкі сапраўднасці подпісаў, пастаўленых за кандыдатаў на прэзідэнцкае крэсла, — адказвае другі.

— І што з таго, — здзіўляецца першы.

— Вось і забірае міліцыя тых, хто подпісы ставіў, каб праверыць іх сапраўднасць. Трэба праверыць кожны подпіс. У нас жа чэсныя выбары.

Дарэчы, подпісаў гэтым разам у суме за ўсіх прэтэндэнтаў сабралі каля трох мільёнаў. Плюс-мінус нешта там, ды гэта неістотна. Не думаю, што ўсе іх будуць правяраць такім чынам, але добры адсотак то дакладна.

Анекдот ды толькі. Толькі вось чамусьці не весяліць. Нейкі новы жанр анекдотаў пайшоў, што не весяліць. І хіба што мы яго вынаходнікі. Хоць, праўду кажучы, і ў суседзяў новыя анекдоты таксама нейкія не вельмі вясёлыя.

Віктар САЗОНАЎ

# На карачках



Вёска, у якой я жыву, знаходзіцца ў кроку ад скіта ў Адрынках. Гэта, відавочна, метафарычны крок, бо трэба моцна перабіраць нагамі, каб пераадолець адлегласць паміж імі. А дарогу паміж імі перасякае рака Нарва. На шчасце, яе берагі злучаны драўлянай кладкай. Амаль кожны дзень я іду насустрач ёй, гуляю са сваімі сабачкамі. Штосьці прыцягвае мяне да яе — можа, чыстая метафара, схаваная ў самой канцэпцыі пешаходнай кладкі? Але наперадзе метафары ёсць звычайная дарога. Таму спачатку мы ідзем з сабачкамі крыху праз вёску і крыху за вясковымі заплоцціямі. Не ўсе мае суседзі любяць сабак. А можа мяне, хто ведае? Мае сабачкі — знайдушкі. Кацпер трапіў да мяне са струшчанымі рэбрамі і зламаным хвастом. Неяк ён прыйшоў да сябе. Толькі не ведаю, чаму ён усё яшчэ спрабуе куснуць у кола кожную машыну, якая праязджае каля яго. Ляля, з пыскай упаўшай бульдожкі і шчырай усмешкай ратвейлера, калі я прывёў яе ў наш дом, мела раздробненую падвочную костку і крывацёчную рану на баку. Цяпер я гляджу ў яе даверлівыя вочы і здзіўляюся, што добры чалавек прычыніў ёй столькі бязмежных пакут. Калі Кацпер кідаецца на спадарожны аўтамабіль, здараецца, што некаторыя кіроўцы паварочваюць руль і едуць проста на яго. Я спалохана гляджу на гэта. Цяжка пераканаць старога сабаку не дзейнічаць па-дурному. А яшчэ цяжэй раззлаванага кіроўцу, які спрабуе наехаць на майго сябра. І яшчэ цяжэй, калі гэта мой сусед. Але які б ён ні быў, ён добры чалавек. На ўсялякі выпадак, аднак, мы ходзім са сваімі сабачкамі па загароддзі, а не па вуліцы. Мы аддаем перавагу блуканню па наднарваўскіх лугах. Там ніякіх машын няма, і добрых людзей няма. Мы баімся гэтых, а не дабрадушных травяных вужоўзаскронцаў, якіх поўныя рачныя лугі. Кацпру і Лялі яны не мяшаюць. Але, бывае, яны выклікаюць у людзях атавістычныя здані. Раней я дапамагаў суседзям раздзерці старую кучу гною, адкладзенага ў полі. Заскронцава маці адклала ў яе яйкі. Убачыўшы іх, мае добрыя суседзі трапілі ў амок і ўсё іх раздушылі тронкамі вілаў. Я не змог гэта прадухіліць. Мне стала сорамна за сябе. Нарэшце я стаю на хісткай кладцы перакінутай праз раку. З яе я бачу скіт, створаны айцом Гаўрыілам. Гады таму тут цягнуліся сакавітыя лугі. Надзвычай прывабівалі яны статак кароў, якія плылі па рацэ, ратуючыся ад бясплодных выганаў. На канікулах я бываў іх пастушком, таму ведаю, колькі трэба было паганяць за імі, каб вярнуць іх назад. З цягам часу на месцы сенажацяў вырас скіт, сілкуючыся Сонцам, гуляючым на залатых купалках. Я не здзіўлены, што яго будаўнік выклікаў вялікую цікавасць у людзей. Калісьці да мяне прыязджалі сябры з Лодзі. Яны вельмі хацелі сустрэць айца Гаўрыіла. «А можа паясце супіку?» — так ён сустрэў нас, і пачаставаў усіх гэтым супікам. Ён заўсёды сардэчна сустракаў гасцей.

Так вось я стаю на кладцы. Пад маёй вагой яна хістаецца над марудлівай плынню ракі Нарвы. Я развітваюся ў думках з Богусем Дудко. Не больш за некалькі тыдняў таму ён расказаў мне, з якой трывогай пераходзіў яе ад берага да берага... на карачках. Завітаў ён да мяне на кароткі час, на ноч, на хвіліну размовы, а на наступны дзень павярнуўся туды, куды імчалася яго неспакойнае сэрца — праз лугі, праз раку Нарву, праз тую самую хісткую кладку. Да Цісоўкі. Памёр праз некаторы час. Усе мы — родныя, суседзі і сябры, якія прыйшлі развітацца з ім — адчулі хісткасць чалавечай кладкі, якая злучае два берагі і жыцця, і смерці. І таксама тую рашучасць Богуся, калі ён не прайшоў ды нават на карачках! Бывай, Богусь Дудко. Хоць можа быць і наадварот, гэта Богусь развітваецца з намі, калі мы стаім, а гэта часта бывае, на нейкай хісткай кладцы. Нарэшце я сыходжу з кладкі. Пара ісці дадому. Я задыхаюся. Але трэба ісці. Лекар рэкамендаваў штодзённыя прагулкі. Я перастаў пасля лекаў адчуваць смакі. Дадаю востры перац ва ўсе стравы. Каб адчуць што-небудзь яшчэ. Па дарозе дадому я часта спыняюся, каб устрымаць трапятанне сэрца. Мае сабачкі здзіўлена глядзяць на мяне. Ці ведаюць яны, што я праклінаю нашы прагулкі ў такі момант? «Але ж ты, мужык, марудзіш, — здаецца, кажуць мне. — Шпацыры файныя! Глянь! Першыя грыбы ўжо з'явіліся!» І ў гэтым доме на вяршыні скарпы, што ўзвышаецца над далінай ракі Нарвы, жыве жанчына, што, карміўшы ката-прыблуду, падзяліўшыся міскай ежы, пасябравала яго з сіратой-лісой. Свет не такі ўжо і дрэнны. Трэба ісці. Нават на карачках.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Штрафныя батальёны Лукашэнкі

Пасля першага тура прэзідэнцкіх выбараў у Польшчы можам на момант заглянуць у Рэспубліку Беларусь, дзе маем дачыненне з жорсткім працэсам самапераабрання кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі на чарговы тэрмін, які завершыцца 9 жніўня. Пра аніякія выбары тут няма мовы, можам толькі гаварыць пра чарговую расправу над беларускім грамадствам, якому, нягледзячы на шматгадовыя рэпрэсіі, надалей хочацца людзьмі звацца, быць звычайным народам, а не нейкім народцам. І менавіта беларускаму народу належацца словы падзякі ад усіх нас за тое, што залежыць яму на будучыні сем'яў і дзяржавы. Узбуджэнне ўнутранай свабоды — аснова для далейшых падзей паміж грамадствам і аўтарытарнай уладай. І менавіта той усплёск грамадскіх, антысістэмных настрояў для ўсіх быў нечаканасцю — і для ўлады, і для ўмоўна званай дэмакратычнай супольнасці. Ніхто з палітыкаў, сацыёлагаў, палітолагаў не апісаў раней і не спрагназаваў такога ходу падзей. Усе дыхалі і думалі ўжо летам, лецішчам і занудлівым агародам. А тут бабахнула хваля пратэстных настрояў і беларускай міжнароднай салідарнасці. Аляксандр Лукашэнка вокамгнення зразумеў, што няма чаго чакаць і кантраляваць у даўжэйшай перспектыве ўмоўна званы выбарчы працэс, але адразу прыступіць да пацыфікацыі нават сваёй імітацыі выбараў. Значыць, дапякло яго да жывога тое, што пачало адбывацца. З другога боку, ці не больш важным і палахлівым ад унутрыбеларускага фактара аказаўся яму прывід звяржэння яго ўлады газава- і нафтапратэктарамі з крамлёўскага напрамку. Таму, каб не паказаць сябе слабым і трапіўшым у тупік, Аляксандр Рыгоравіч механічна спрацаваў па сцэнарыі рэалізаваным ім дзесяцігоддзямі. Значыць, узяць у заложнікі саміх беларусаў і гандляваць імі з Захадам і Усходам. Гандаль народамі і дзяржавамі гэта найбольшае палітычнае бля...тва, якое для прыстойнасці называецца перамоўным працэсам. А гэтую штуку кіраўнік Беларусі ўзвёў на ўзвышша. Праз усе гады сваёй улады тысячы людзей трапіла ў сістэму яго штрафных батальёнаў, якіх скарыстоўваў і пераследаваў дзеля свайго адзінага, праўдзівага кахання — дыктатуры. Розныя былі тыя вымярэнні заложніцтва — гады турмы і калоніі; суткі і адміністрацыйныя штрафы; зніклыя палітыкі і міграцыйны прымус; пазбаўленне працы актыўных людзей і сямейны ціск. Менавіта тыя штрафныя батальёны ў беларускай рэчаіснасці рассейвалі страх, тым самым будуючы сілу мінскага дыктатара. Таму беларуская і міжнародная грамадскасць павінна атрымаць выдадзеную праваабарончымі арганізацыямі працу „Кніга ганьбы. Штрафныя батальёны Аляксандра Рыгоравіча”. У ёй павінны апынуцца ўсе імёны і прозвішчы людзей з усёй Беларусі, якія трапілі ў штрафную сістэму дыктатара ад пачатку яго ўлады. Разам з усімі, следчымі, суддзямі, і таму падобнае. Ніхто не мае права быць забытым, бо так часта бывае, што пры перадачы ўлады тыя дзясяткі тысяч чалавечых лёсаў становяцца нікому непатрэбнымі і абмінутымі ўвагай ці дапамогай. Прыклад польскага круглага стала і забытых потым герояў Салідарнасці проста сумны. Вось і доказ існавання штрафнога батальёна зараз, які, на жаль, яшчэ не закрыты. «Па даных праваабаронцаў „Вясны”, з пачатку бягучай выбарчай кампаніі 125 чалавек атрымалі агулам 1800 сутак арышту па адміністрацыйных артыкулах, выкарыстаных у мэтах палітычнага пераследу. 246 чалавек атрымалі штрафы агульным памерам амаль у 190 000 рублёў. Праваабаронцам вядома як мінімум пра 680 выпадкаў адвольных затрыманняў, якія адбыліся ў перыяд з 6 траўня па 1 ліпеня. Суды над удзельнікамі перадвыбарных пікетаў і акцый салідарнасці дагэтуль не спыняюцца. Спіс палітвязняў у Беларусі вырас да 22 чалавек, што па колькасці ўжо супастаўна з сітуацыяй найбольш цяжкага крызісу з правамі чалавека ў Беларусі ў канцы 2010-2011 гадоў. Асаблівую занепакоенасць праваабарончай супольнасці выклікаюць факты парушэння правоў палітвязняў, якія знаходзяцца ў следчых ізалятарах, цэнтрах ізаляцыі правапарушальнікаў ці ізалятарах часовага ўтрымання: сістэматычны нядопуск да іх адвакатаў на падставе прафілактыкі пандэміі каранавіруса, а таксама прымяненне жорсткага і бесчалавечнага абыходжання». Жахліва і, на жаль, праўдзіва.

Яўген ВАПА

# Апынуліся на чужыне — зараз падтрымліваюць Радзіму

**Беласток, Рым, Вільня, Кракаў, Берлін, Масква, Вена ды іншыя еўрапейскія гарады, у якіх жывуць беларусы, далучыліся да акцыі супраць палітычных рэпрэсій у Беларусі. Прэзідэнцкія выбары ў гэтай краіне прызначаны на 9 жніўня. Аднак ужо спачатку выбарчай кампаніі ў беларускіх турмах апынуліся першыя ахвяры лукашэнкаўскага тэрору, сярод іх палітыкі Мікалай Статкевіч і Павел Севярынец, былы патэнцыяльны кандыдат у прэзідэнты Сяргей Ціханоўскі ці Ігар Лосік — адміністратар апазіцыйнага канала Telegram. Таму беларусы ўсяго свету рознымі акцыямі выказваюць свой супраціў уладзе і падтрымку змагарам за свабоду.**

У Беластоку — самым блізкім да мяжы з Беларуссю горадзе, прайшло шэраг акцый падтрымкі беларускім палітвязням. Беластоцкі Інстытут грамадскіх дзеянняў разам з Беларускім домам у Варшаве зладзіў марафон салідарнасці пад лозунгам „Лісты салідарнасці” з пераследаванымі перад надыходзячымі прэзідэнцкімі выбарамі ў гэтай краіне.

— У Беластоку пражывае шматлікая беларуская меншасць, — кажа кіраўнік Беларускага дома ў Варшаве Алесь Зарэмбюк. — Тут таксама з кожным годам павялічваецца колькасць прадстаўнікоў беларускай дыяспары, якія прыехалі сюды альбо вучыцца, альбо працаваць. Беласток — горад прыязны беларусам у Польшчы. І трэба, каб тыя, хто зараз знаходзіцца ў вязніцах, адчувалі не толькі падтрымку дыяспары, беларускай меншасці, а таксама суседняга польскага народа, які з’яўляецца народам салідарнасці.

Падпісаныя лісты-паштоўкі адпраўляюцца палітвязням у Беларусі, арыштаваным за сацыяльную і палітычную дзейнасць. Арганізатары кампаніі нагадваюць:

— Дзе як не ў Польшчы, якая мае такія доўгія традыцыі салідарнасці, арганізаваць такога тыпу сустрэчы і падзеі? — сказаў Радаслаў Пусько з Інстытута грамадскіх дзеянняў. — У Беларусі дарасло новае пакаленне людзей, якім проста патрэбная змена, якія хочуць жыць у нармальнай, дэмакратычнай і праеўрапейскай краіне.

У акцыі прынялі ўдзел таксама дзясяткі беларусаў, якія па палітычных ці эканамічных прычынах з’ехалі ў Беласток.

— Людзі ўжо моцна стомлены, — адзначыла Моніка Ляшчэўская з Мінска. — Я сама псіхолаг і мне здаецца, што людзі ў Беларусі проста не маюць спадзяванняў на якія-небудзь змены. Ёсць, вядома, актывісты, якія падымаюць новыя дзеянні і прабуюць змагацца — гэта радуе. Усё-такі мае родныя, якія там жывуць, проста нават не цікавяцца тым, што адбываецца — гэта сумна, але яны лічаць, што проста нічога не змогуць зрабіць.

Акцыю ладжаную ў Беластоку таксама падтрымала падляшская беларуская меншасць.

— Тое, што адбываецца ў Беларусі неабыякавае для ўсіх беларусаў ва ўсім свеце, — адзначыў старшыня Беларускага саюза ў Польшчы Яўген Вапа. — Беларусы ўсяго свету духоўна лучацца са сваёй бацькаўшчынай. Гэтыя акцыі не першыя ў Беластоку. Мы і раней падпісваліся ў падтрымку зняволеных, якія патрабуюць падтрымкі з 1995 года, калі да ўлады прыйшоў Аляксандр Лукашэнка.

**„Выходзьце з плакатамі ў людныя месцы”**

Чарговыя дзве акцыі прайшлі па вуліцы Электрычнай, дзе знаходзіцца Генеральнае консульства РБ. Суарганізавалі яе з патрэбы сэрца беларускія грамадзяне, якія жывуць зараз у Беластоку. Яны трымалі ў руках бел-чырвона-белыя сцягі, плакаты „Свобода вязням” ды іншыя.





— Заклікаю ўсіх беларусаў, якія жывуць па ўсёй Польшчы, звяртайцеся ў свае мясцовыя адміністрацыі, выходзьце з плакатамі ў людныя месцы, — казаў арганізатар акцыі Дзяніс Бондараў 24 чэрвеня пад беларускім Генконсульствам у Беластоку. — Пяць гадоў таму пра Беларусь пісала ўся сусветная прэса: Святлана Алексіевіч — лаўрэат Нобелеўскай прэміі. Зараз таксама пішуць: Рэспубіка Беларуь — выбары і рэпрэсіі. Пяць гадоў таму я радаваўся як кожны беларус, а зараз занепакоены гэтым, што ў нас праходзіць.

Пад Генконсульствам людзі крычалі „Свабоды”, „Жыве Беларусь” ды проста маўкліва ўслухаліся ў беларускамоўную версію песні Яцка Качмарскага „Муры”.

— Там засталіся нашы родныя, сябры, мы за іх перажываем, — кажа ўдзельніца акцыі Надзея.— Многія пытаюцца: што мы можам зрабіць? На маю думку, калі кожны будзе рабіць тое, што можа, нават калі гэта была б сапраўдная дробязь, разам будзем сілай.

Беластоцкія акцыі таксама аб’ядналі беларусаў Беларусі. Людзі, гледзячы, што маюць адны мэты, пачалі таксама сустракацца і пры іншых нагодах. Упершыню пад Беластокам адбудзецца „Сямейны пікнік за горадам”, які мае аб’яднаць беларусаў — прыезджых і мясцовых аўтахтонаў.

— Зараз вельмі многа моладзі з Беларусі з’язджае ў Польшчу таму, што не бачаць у сваёй краіне перспектыў для развіцця, — адзначыў у час акцыі Дзіма. — Усе беларусы, якія пражываюць у Польшчы, сочаць за актуальнымі падзеямі ў Беларусі, за рэакцыяй на гэтыя падзеі іншых краін, Еўрасаюза. Хочацца, каб адбыліся нейкія перамены ў плане дэмакратызацыі. Людзі хочуць мірных перамен. Улада павінна ўжо таксама памяняць стаўленне да свайго народа.

**Людзі сталі ў чарзе за свабоду**

Беларусы Літвы таксама выказалі сваю салідарнасць з палітвязнямі ў Беларусі. 19 чэрвеня ў Вільні на плошчы Вінцука Кудзіркі дзясяткі людзей сабраліся пад бел-чырвона-белымі сцягамі, каб выказаць свой супраціў палітыцы Лукашэнкі.

— Я маю статус уцекача ў Літве, а сам з Беларусі, — сказаў адзін з удзельнікаў акцыі. — Вельмі перажываю, што там адбываецца. Бачыце ў маіх руках плакат з надпісам „Сумасшедший Саша”. Хачу звярнуць увагу сусветнай супольнасці на тое, што гэтыя 3 працэнты, якія пагадзіліся працаваць з вар’ятам-Сашам, яны забіраюць усе сродкі існавання ў астатніх 97 працэнт.

На плошчы з’явіліся перш за ўсё прадстаўнікі беларускай абшчыны ў Літве.

— Для гэтага я сюды прыйшоў, каб быць разам з іншымі беларусамі, якія цяпер жывуць у Літве, для якіх тое, што адбываецца на Бацькаўшчыне, у Беларусі, неабыякава, — адзначыў удзельнік акцыі ў Вільні. — Нам складана дапамагчы тым змагарам, якія ў Беларусі, таму што мы за мяжой. Сваю падтрымку можам выказаць толькі такім чынам. Калі я даведаўся, што акцыя арганізуецца, спланаваў свой час, каб абавязкова паўдзельнічаць. Лічу што гэта мая грамадзянская пазіцыя.

Людзі на плошчы ў Вільні сустрэліся дзеля падтрымкі палітзняволеных, супраць неправамерных дзеянняў улад, у тым ліку перашкод у правядзенні дэмакратычных і празрыстых выбараў.

— Мы ўсе змагаемся нездарма, — адзначыла Вольга Карач з арганізацыі „Наш дом”. — Сёння ў Беларусі перыяд больцых надзей. І зараз, упершыню ад 26 гадоў, я не ведаю, хто стане прэзідэнтам у Беларусі. Так, з аднаго боку ідуць рэпрэсіі, з другога — відаць як людзі хочуць перамен, мірных перамен. Упершыню людзі ў Беларусі сталі не за каўбасой, як мы сталі ў Савецкім Саюзе, людзі сталі ў чарзе за свабоду.

Апрача беларускай дыяспары на плошчу прыйшлі таксама літоўцы, якія адсочваюць таксама падзеі ў Беларусі.

— Хачу быць салідарным з беларускімі грамадзянамі, якія выказваюць сваё меркаванне, незадаволенасць рэпрэсіямі, — сказаў акадэмік Віленскага ўніверсітэта Віця Сурконіс. — Думаю, што нам, суседзям, вельмі важна падкрэсліць, што мы бачым, падтрымліваем тых, хто за свабоду.

— Некаторыя інстытуцыі Еўрасаюза заснулі пад сном Аляксандра Лукашэнкі, лічаць, што ў Беларусі ўсё добра, што шануюцца правы апазіцыі і чалавека, — адзначыў прадстаўнік Еўрапарламента па пытаннях Беларусі Пятрас Аўштрявічус. — Гэта не так. Хопіць паглядзець на тое, што зараз адбываецца ў многіх беларускіх гарадах. Такія пераследы пакінуць незаўважанымі было б проста злачынствам з боку дэмакратычнай Еўропы.

Падобная акцыя падтрымкі прайшла таксам 26 чэрвеня пад амбасадай Беларусі ў Вільні, а таксама пад беларускім генконсульствам у Беластоку.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

## Мы пра „Ніву" не забываем

Зараз у ліпені жыхары гарадоў і вёсак пачалі збіраць ягады і грыбы. Можна сустрэць шмат людзей у лесе. 4 ліпеня я збіраў чарніцы ў лесе за вёскай Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Маіх аднавяскоўцаў можна сустрэць у лесе каля Новін, Лазовага, Лешукоў, Слабодкі і Плянты.

Не абмінаюць лесу і нашы чытачкі Яўгенія Смольская і Зіна Рубчаўская з Новага Ляўкова. Але яны не пакінулі чытаць „Ніву". Чытаць па-беларуску навучыліся ў сямікласнай Пачатковай школе ў Луцэ. Настаўніцай літаратурнай роднай мовы была Ніна Ціванюк.

Галіна Бірыцкая з Плянты чытае „Ніву" і піша вершы на роднай мове. Літаратурную беларускую мову спазнала ў Пачатковай школе ў Старым Ляўкове. Вучыў яе настаўнік Мікалай Барташук. Дадам, што ён і мяне вучыў пісаць і чытаць па-беларуску ў той жа школе. Мы мелі ахвоту да навукі. Галіна мела далёка ў школу, хадзіла з Лазовага каля пяці кіламетраў.

У нядзелю, 5 ліпеня гэтага года я наведаў нашага пастаяннага чытача Канстанціна Ярмошука з Новін. Прывёз яму сёлетні 27 нумар „Нівы" ад 5 ліпеня. Пытаю, хто вучыў яго беларускай мове ў школе ў Лешуках. У адказ чую, што ўрокі роднай мовы вёў Аляксандр Харкевіч, які быў задно настаўнікам і кіраўніком лешуцкай школы. Спадар Канстанцін прадэкламаваў мне і майму гайнаўскаму калегу Яўгену (мы прыехалі на ягонай машыне) вершы на беларускай мове пра прамінанне і выбары ў Сейм РП. Наш субяседнік паказаў сябе супердэкламатарам.

5 ліпеня г.г. я завёз „Ніву" з беларускім календаром на 2020 год у Асяродак экалагічнай адукацыі ў Семяноўцы. Карыстацца ім будуць, між іншым, зацікаўленыя турысты. **(яц)**

## Гарадскі мядок

Сабраны першы ўраджай мёду з беластоцкага гарадскога пчальніка. Чатырнаццаць кілаграмаў атрыманага мёду зілілі ў 72 слоікі, якія будуць выкарыстоўвацца ў рэкламных мэтах горада.

Атрымалі з першага ўраджаю 15 кг сырога мёду. Пасля ачысткі засталося 14 кг. Мёд быў расфасаваны ў 72 слоікі ёмістасцю 0,2 літра. Першы мёд вырабілі пчолы пераважна з нектару вярбы, дзьмухаўца, клёна і каштана. У выніку быў атрыманы вясновы, нектарны і шматкветкавы мёд.




— У гэтым годзе чакаем каля 60, а, можа, і 70 кілаграмаў мёду з нашага гарадскога пчальніка, — мяркуе намеснік прэзідэнта горада Беластока Рафал Рудніцкі. — Вядома, што будзе ён выкарыстоўвацца для прасоўвання горада, напрыклад, падаруем яго гасцям, якія наведваюць Беласток.

У кастрычніку 2019 года на пчальніку на скрыжаванні вуліц Яна Клеменса Браніцкага і. Чэслава Мілаша паставілі пяць вулляў — чатыры гістарычныя вуллі з розных рэгіёнаў Падляшша (у тым ліку адзін, якому каля ста гадоў) і адзін вулей, якімі зараз карыстаюцца пчаляры. Пчальнік па замове горада дагледзе вопытны пчаляр Мікола Мак.

Беластоцкі гарадскі пчальнік — не выпворчая пасека, а перш за ўсё адукацыйны праект. Гэта частка праграмы „Абарона апыляльных насякомых у раёне Беластока". Ідэя стварэння першага гарадскога пчальніка ў Беластоку ўзнікла пры стварэнні кветкавых лугоў як натуральны працяг гэтага праекта. **(лук)**



# Уцячы ад заразы на ўлонне прыроды

Да хору прадпрымальнікаў розных індустрый турызму пацярпеўшых ад пандэміі, якія на прадвесні і вясной разлічвалі страты і звярталіся па дапамогу, далучыліся былі ўладальнікі жылля ў аграгаспадарках. „Мы паміраем!" — пісала Аляксандра Кляноўская-Шалэк, сузаснавальніца партала, які пасрэдніча́ць у арэндзе жылых памяшканняў *Slowhop.com*, аб'ядноўваючага 500 арганізацый з індустрыі экатурызму, у тым ліку аграгаспадаркі, пансіянаты, гасцінныя дамы і хаты на канікулы. З дня на дзень сем'і, якія жывуць выключна на кароткатэрміновую арэнду, **былі пазбаўлены сродкаў да існавання**, больш за тое, яны былі юрыдычна вымушаны вярнуць авансавыя плацяжы за будучую арэнду.

— Той «шчыт для турызму» жахлівы, насамрэч яго няма. Яго палажэнні часта не тычацца нас і не ўяўляюць сабой мінімальнай дапамогі, якая не дазволіць нам перажыць наступных некалькіх месяцаў, — скардзілася. — Адзінае, што ў нас ёсць, гэта 180 дзён, каб вярнуць аванс або ваўчар. Ну і што, бо мы не маем прыбыткаў і ў нас устаноўлена забарона на дзейнасць, і турысты неахвотна адтэрміноўваюць даты, патрабуючы неадкладнага вяртання ўплат якія яны зрабілі загадзя.

Што яшчэ горш, паведамленні аб пераносе альбо скасаванні школьных канікулаў прывялі да адсутнасці ранейшых заказаў на лета, якія да гэтага часу прынеслі б 70-80 працэнтаў гадавога даходу.

— Найгоршае — нявызначанасць. Мы не ведаем, што адбудзецца. Такіх месцаў больш за дзясятак тысяч па ўсёй Польшчы. Экатурызм і сельскі турызм важныя, бо мяняюць кірунак грашовага патоку. Замест таго, каб накіроўвацца да буйных гасцінічных сетак, яны ідуць да гаспадароў, якія не толькі праводзяць прадпрымальніцкую дзейнасць, але рэальна ўдзельнічаюць у ахове культурнай спадчыны і прыроднага асяроддзя.

Прадпрымальнікі экатурызму заклікалі перш за ўсё як мага хутчэй **адмяніць забарону** на незалежныя дамы адпачынку і агратурызм з кватэрамі з асобным доступам, у якіх выдаванне ключоў можа адбывацца бескантактавым чынам. Шмат такіх дамоў размешчана далёка ад населеных пунктаў і можа істотна спрыяць зняццю напружання ў гарадах. Гаспадары прапанавалі падоўжыць інтэрвал паміж наступнымі гасцямі да 48 гадзін, каб дбайна прадэзінфікаваць жыллё.

Сярод прапаноў, якія дапамаглі б гаспадарам **перажыць перыяд** без прыбытку, мелі б быць незваротная ўспамога на не менш за 50 адсоткаў ад леташняй штомесячнай выручкі за кожны месяц забароны, авердрафтная лінія на рахунку без праверкі крэдытаздольнасці і бюракратыі (на два-тры гады з нізкай працэнтнай стаўкай 1,5-2 працэнты), крэдыт, прадстаўлены дзяржавай для будучых інвестыцый і пагашэння дэбіторскай запазычанасці пасля крызісу, адмены ўкладаў ЗУС на працягу ўсяго тэрміну забароны, зніжэння падатку на маёмасць альбо вызвалення ад гэтага, зніжэнне падатку за прыбытак да 2020 года, субсідыі на заробтную плату без абавязацельстваў па падтрыманні занятасці на працягу наступных трох месяцаў, адмена альбо змяншэнне па меншай меры на 50 працэнтаў падатку на зямлю і маёмасць у 2020 годзе, акцыя ўсіх устаноў, звязаных з турызмам, якія прасоўваюць турызм у Польшчы пасля зняцця забароны і ўрэгулявання сітуацыі, павелічэнне ліміту нумароў у аграгаспадарках з пяці магчымых альбо дазвол на размяшчэнне іх у двух і больш будынках, адмена загаду на вяртанне дэпазіту для будучых паездак альбо зніжэнне яго на кошт гаспадара ці вяртанне грошай толькі ў выглядзе ваўчара на будучае пражыванне.

Нягледзячы на сённяшнюю трагічную сітуацыю, гаспадары не гублялі аптымізму. Па словах Аляксандры Кляноўскай-Шалэк, сёлетняя пандэмія прымусіць польскіх турыстаў заставацца ў краіне. Не будзе проста забыцца на ўсе забароны. Абавязак пазбягаць вялікіх груп людзей можа прымусіць нас пазбягаць вялікіх гасцініц і курортаў, якія абслугоўваюць шведскія фуршэты на некалькі соцень людзей. Самымі папулярнымі будуць невялікія дамы адпачынку, у якіх можна правесці свой адпачынак без кантакту з іншымі людзьмі, і шматпакаёвыя пансіянаты, у якіх пачуццё бяспекі будзе большае, чым у гатэлях са СПА з фуршэтамі на некалькі соцень гасцей.

— Цалкам магчыма, што каранавірус стане імпульсам **для напрамкаў**, якія да гэтага часу не карысталіся вялікай папулярнасцю. Аднак, калі мы пяройдзем да месцаў, дзе раней было людна, паспрабуем выбраць меншыя гатэлі і менш наведваныя маршруты, — прагназавала А. Кляноўская-Шалэк.

Навінка падчас пандэміі — часовы, але працяглы, нават на некалькі тыдняў, пераезд у сельскую мясцовасць, што не выключае нармальнага функцыянавання, а значыць, вучобы ці працы. З-за забароны на кароткатэрміновае пражыванне шматлікія гаспадары запрашалі жыхароў буйных гарадоў, якія хочуць спакойна адчакаць каранцін даўжэй. Людзі з медыцынскім паніжаным імунітэтам таксама прымалі рашэнне аб працяглым знаходжанні ў вёсцы.

**З 4 мая** гатэлі і аграгаспадаркі маглі аднавіць сваю дзейнасць, напрыклад, пансіянаты, нумары для гасцей, прыватныя і агратурыстычныя нумары. Гэтыя паслугі маглі прадстаўляцца з улікам канкрэтных правілаў бяспекі. У мэтах бяспекі нельга было есці стравы ў рэстаранных частках, але іх можна было падаваць у нумар. Міністэрства развіцця сумесна з галоўным санітарным інспектарам і прадстаўнікамі зацікаўленых супольнасцей падрыхтавала рэкамендацыі па асобных галінах. Іх мэта — **забяспечыць максімальную бяспеку** і знізіць рызыку заражэння каранавірусам. Згодна з рэкамендацыямі, інфармацыя



пра максімальную колькасць кліентаў, якія могуць знаходзіцца адначасова ў той ці іншай частцы будынка, павінна быць размешчана на бачным месцы перад уваходам у аб'ект, які прапануе жыллё, і лічыцца: колькасць нумароў разы два чалавекі.

Для гасцей на пад'ездах, у прыёмнай, ля прыёмных ліфтаў, гандлёвых кропак і на выхадзе з туалетаў павінны быць дазатары з вадкімі дэзінфікуючымі сродкамі для рук. Рэкамендавалася скараціць час знаходжання гасцей на прыёме. Падкрэслівалася, што існуе абсалютная забарона на знаходжанне ў гасцініцы / будынку / гасцявым доме асоб, якія там не пражываюць. Нумары, такія як агульныя тэлевізійная зала, дзіцячыя гульнявыя пакоі, басейны, саўны і дыскатэкі былі выключаны з наведвання гасцей. **Рэкамендавалася** ўладальнікам памяшканняў рэгулярна прыбіраць памяшканне і дэзінфікаваць пасля кожнага кліента, сярод іншых спінкі крэсла, пульт дыстанцыйнага кіравання і ванныя пакоі. Гасцінічнае абсталяванне, даступнае для гасцей, напрыклад, ровар, байдарка і г.д., таксама павінна быць дэзінфікаванае пасля кожнага выкарыстання. Персанал па ўборцы павінен быць забяспечаны аднаразовымі маскамі для твару, пальчаткамі і, пры неабходнасці, аднаразовымі фартушкамі з доўгімі рукавамі. У той жа час, уборка памяшкання можа ажыццяўляцца толькі па жаданні заказчыка. Таксама рэкамендуецца сістэ-

чытайце ☞





■ Выстаўку габеленаў адкрыў войт Яраслаў Галубоўскі (стаіць пасярэдзіне).

# У нас ткуць габелены

**Габелен — непаўторная мастацкая праца, якую робіцца ў адну аснову. Майстэрню ў гмінный галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Гайнаўскага павета вядзе Малгажата Краўчык, настаўніца пластыкі.**

У вясковых святліцах у Плянце і Семяноўцы ды майстэрні ў Нараўцы ахвотна займаюцца жанчыны з Нараўчанскай гміны, між іншым, Альжбета Кунцэвіч з Лешукоў, Зіна Рубчэўская з Новага Ляўкова, Феліцыя Баркоўская, Галіна Грыка-Бірыцкая, Ірэна Васько, Люцына Зданоўская і Лена Харкевіч з Плянты, Лідзія Бельская з Тарнопаля ды Барбара Бірыцкая, Анна Засім, Альжбета Матысюк, Галіна Панькоўская і Марыя Шыманюк з Семяноўкі.

Ткацтва габеленаў — гэта іх хобі. Яны выконваюць свае працы з выкарыстаннем ваўняных і баваўняных каляровых нітак ды іншых матэрыялаў. Добра атрымліваюцца тканыя краявіды, матывы кветак і іншай расліннасці. Яны выконваюцца дзесяткамі гадзін. Тут патрэбны здольнасці і цярплівасць падчас працы. Кожная асоба індывідуальна разгортвае свой талент. Кожная майстрыха ідзе сваёй дарогай. Мае свой індывідуальны стыль работы.



■ Войт таксама спрабаваў ткаць габелен.

Працы можна агледзець у нараўчанскай галерэі кожны тыдзень ад серады да нядзелі ўключна, ад гадзіны 10-й да 18-й. З нагоды адкрыцця выстаўкі 18 чэрвеня гэтага года галерэя выдала каляровы буклет са здымкамі лепшых прац. У адкрыцці багатай у мастацкія працы экспазіцыі ўдзельнічалі Яраслаў Галубоўскі, войт Нараўчанскай гміны, Анатоль Раманчук, старшыня Гміннай рады, загадчыкі гмінных культурных устаноў, гмінныя радныя і аўтаркі прыгожых габеленаў.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

---

Лабараторыя распазнавання і сінтэзу маўлення

# http://ssrlab.by

Навукова-тэхнічны прагрэс рухаецца, нягледзячы на нестабільнасць у сучасным свеце, на войны, эпідэміі, дыктатарскія рэжымы і іншыя перашкоды. Праўду кажучы, часцяком пераадоленне розных перашкод гэта ўжо ёсць прагрэс. Вось напрыклад лукашэнкаўскія ўлады зрабілі ўсё, каб звесці беларускую мову на ўзбочча навукі і тэхналогій. І сёння выкарыстанне яе ў беларускай краіне звузілася больш, чым гэта было нават за савецкім часам. Аднак нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, многія беларускія навукоўцы не толькі захоўваюць беларускую мову, але і робяць яе моваай навуковай дзейнасці.

Адным з прыкладаў такога выкарыстання мовы — Аб'яднаны інстытут праблем інфарматыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Ужо даволі даўно ў сеціве існуе сайт Лабараторыі распазнавання і сінтэзу маўлення, дзе ўсё па-беларуску. Каб пазнаёміцца з сайтам лабараторыі, трэба набраць у інтэрнэце адрас https://ssrlab.by.

Пры першым поглядзе на галоўную старонку ніяк не знойдзеш адказу на пытанне: што гэта за сінтэз маўлення? Толькі пры больш уважлівым вывучэнні партала пачынаеш разумець, што ходзіць, сярод іншага, пра магчымасць разнастайнымі IT-дадаткамі пераўтвараць сказанае голасам у надрукаваны тэкст.

„Лабараторыя распазнавання і сінтэзу маўлення была заснавана ў 1974 годзе спачатку як аддзел Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута сувязі (ЦНДІС), а з 1986 года як лабараторыя Інстытута тэхнічнай кібернетыкі НАН Беларусі. Галоўны навуковы напрамак дзейнасці лабараторыі — тэорыя распазнавання і сінтэзу маўлення і прымяненне маўленчай сувязі ў чалавека-машынных сістэмах", — так характарызуюць напрамак сваёй дзейнасці супрацоўнікі лабараторыі ў рубрыцы „Навуковы накірунак".

Далей у дадзенай рубрыцы ідзе апісанне працы вельмі мудрагелістымі навуковымі словамі. „Высакаякасны шматмоўны і шматгалосы сінтэз маўлення па тэксце грунтуецца на выкарыстанні алафонных элементаў (усяго парадку 1000 шт.) натуральнага маўлення з максімальна магчымай імітацыяй зададзеных мужчынскіх і жаночых галасоў", — распавядаецца там. У перакладзе на звычайную мову гэта значыць, што навукоўцы даследуюць як гучаць адны і тыя ж словы, выказаныя рознымі галасамі і інтанацыямі, каб потым гэтыя словы правільна былі запісаны ў тэкст, то-бок сінтэзаваны.

Калі машына здольная распазнаць чалавечыя словы, то зразумела, яна можа і выканаць тыя каманды, што голасам дае чалавек. Гэта безумоўна мае вялікае практычнае значэнне. Да прыкладу, гэта можна выкарыстоўваць як інтэрнэт-сэрвіс па тэлефоне — замова квіткоў і паслуг, як тэлефонныя сістэмы аўтаінфармавання, як пакрокавыя інструкцыі па мантажы і наладцы абсталявання, як сістэмы камп'ютарнага навучання мове і маўленню і гэтак далей. І гэта толькі малая частка мэт, якія ставяць перад сабой навукоўцы і якія ўзгадваюцца ў падрубрыцы „Мэты дзейнасці".

Адным з вынікаў працы лабараторыі з'яўляюцца пераклады з рускай мовы юрыдычных тэкстаў, а менавіта розных кодэксаў, якія дзейнічаюць у Беларусі. На сайце яны з'явіліся літаральна напачатку чэрвеня. Гэта сведчыць аб тым, што Лабараторыя распазнавання і сінтэзу маўлення актыўна працуе.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

---

Дата з Календара



## 95 гадоў з дня нараджэння

# Віктара СІКОРЫ

Адзін з кіраўнікоў Саюза беларускай моладзі ў Паставах, камандзір антысавецкага атрада на Пастаўшчыне, вязень сталінскага канцлагера Віктар Сікора нарадзіўся 12 ліпеня 1925 г. у вёсцы Малыя Алашкі Дзісенскага павета Віленскага ваяводства (цяпер Шаркоўшчынскі раён Віцебскай вобласці). Паходзіў з сям'і будучага вядомага беларускага селекцыянера Івана Сікоры.

Віктар Сікора скончыў 6 класаў польскай школы. У Другую сусветную вайну ў 1942 г. скончыў 6-месячныя настаўніцкія курсы і паступіў у Пастаўскую настаўніцкую семінарыю. У ліпені 1943 г. прайшоў курсы малодшых кіраўнікоў Саюза беларускай моладзі ў Альбярціне пад Слонімам. У гэтай школе атрымаў званне грамадовага. Стаў адным з кіраўнікоў (кіраўніком пры настаўніцкай семінарыі ў Паставах) СБМ у Паставах.

У канцы 1943 г. Сікора на курсах старэйшых кіраўнікоў СБМ у Менску пазнаёміўся з Усеваладам Родзькам, Франішкам Кушалем, Аўгенам Калубовічам, Наталляй Арсенневай і Радаславам Астроўскім. Увесну 1944 г. далучыўся да Беларускай незалежніцкай партыі, стаў кіраўніком яе Пастаўскага камітэта. Вядома, што тады ж прымаў у БНП Аўгена Жыхара, які збройна ў атрадах „Чорнага ката" змагаўся з саветамі ажно да студзеня 1955 г.

Летам 1944 г. у час адыходу немцаў Сікора застаўся ў Беларусі, атрымаўшы загад ад Усевалада Родзькі застацца ў тыле Чырвонай Арміі для прыёму баявой групы і стварэння беларускага падполля. Прызваны ў Чырвоную Армію, нейкі час служыў пісарам роты ў Белай Царкве (Украіна), але ў лістападзе 1944 г. дэзерціраваў, хаваўся ў родных мясцінах.

Вясной 1945 г. Сікора арганізаваў партызанскі аддзел, які налічваў некалькі дзясяткаў чалавек і меў кулямёты, аўтаматы, вінтоўкі, гранаты і іншую зброю. У жніўні 1945 г. здаўся савецкім уладам, быў амніставаны і жыў пад наглядам у роднай вёсцы. Аднак 5 снежня 1945 г. арыштаваны НКВД, зняволены ў Вялейскай турме. У гэтай турме, дзе яго моцна катавалі, напісаў верш.

Віктара Сікору засудзілі паводле артыкула 63-І Крымінальнага кодэкса БССР да 10 гадоў пазбаўлення волі ў канцлагерах, з паражэннем у правах на 5 гадоў. Працаваў на капальнях золата ў Якуціі, пасля — у тайшэцкім „Азерлагу". Паводле ўспамінаў старэйшай сястры Лідзіі, бацькава слава садавода-селекцыянера дапамагла Віктару выжыць у зняволенні: калі пра юбілей Івана Сікоры напісала маскоўская газета „Правда", Віктара перавялі з прац у капальнях золата і лесанарыхтовак працаваць у лазню.

У канцы 1954 г. Віктар Сікора вярнуўся ў Беларусь у родную вёску Малыя Алашкі, дзе жыў да канца жыцця. Дапамагаў бацьку, скончыў сельгасакадэмію, пісаў вершы. Пасля вызвалення і вяртання на радзіму сустрэўся і пасябраваў з настаўніцай, кіраўнічкай культурна-асветнага цэнтра імя Язэпа Драздовіча ў Германавічах Адай Райчонак. Разам яны стварылі ў Малых Алашках музей Івана Сікоры і даглядалі яго сад.

Віктар Сікора дагэтуль не рэабілітаваны афіцыйна. 22 траўня 1992 г. прэзідыум Віцебскага абласнога суда пастанавіў прысуд ваеннага трыбунала войскаў МУС Маладзечанскай вобласці ад 8 мая 1946 г. і вызначэнне ваеннага трыбунала БВА ад 7 жніўня 1956 г. „у адносінах Сікоры пакінуць без змен". Памёр Сікора 1 ліпеня 2008 г., пахаваны на могілках у вёсцы Мельніца на Шаркоўшчыне. У 2015 г. у Глыбокім прайшла прэзентацыя кнігі яго вершаў „Шурпатая дарога", якая была выдадзена намаганнямі грамадскіх арганізацый.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Аўтобусы ад маршалка

Адновіцца курсаванне 21 аўтобуснага маршрута транспартнага прадпрыемства PKS Nova ў рэгіёне.19 чэрвеня маршалак Артур Касіцкі падпісаў кантракт з падляшскім ваяводам аб суфінансаванні з Фонду развіцця аўтобуснага транспарту. У канферэнцыі перад аўтавакзалам у Беластоку прынялі ўдзел таксама намеснік міністра інфраструктуры Рафал Вебер, намеснік маршалка Марэк Ольбрысь, сенатар Яцэк Багуцкі і прадстаўнікі мясцовага самакіравання.

Новыя злучэнні будуць каштаваць 9,8 млн. злотых; 5,8 млн. злотых паступіць з Фонду развіцця аўтобуснага транспарту. Кантракт будзе выконваць PKS Nova да канца 2020 года.

— Дадзены кантракт складае амаль 10 млн. злотых і амаль 2 млн. кіламетраў пераеханых да канца гэтага года. Гэта 21 лінія ў гэтым годзе, а можа быць, і больш у наступным годзе. Разам з ваяводскай радай і раднымі гарантуем, што Падляшскае ваяводства не будзе падлягаць камунікацыйным выключэнням, як у выпадку са знешняй сувяззю, так і ўнутры рэгіёна, — сказаў маршалак Касіцкі. Ён таксама падкрэсліў, што дзейнасць урада дазваляе жыхарам рэгіёна не толькі дабірацца да вялікіх гарадоў і скарыстацца іх медыцынскай, культурнай ці спартыўнай прапановай, але і перамяшчацца ўнутры і атрымаць асалоду ад пераваг і прыгажосці рэгіёна.

Падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі ацаніў, што травеньскі набор, у рамках якога падалася заява Ваяводскай управы, карыстаецца вялікай папулярнасцю ў органах мясцовага самакіравання. Усяго было атрымана 11 заявак, дзякуючы якім рэгіён атрымае ў агульнай складанасці 37 аўтобусных маршрутаў даўжынёй прыблізна ў 2,7 тысячы кіламетраў.

— Я вельмі рады, што ў гэты апошні набор, які быў абвешчаны некалькі тыдняў таму, маршалак Падляшскага ваяводства Артур Касіцкі вырашыў падаць заяўку на фінансаванне больш за 20 аўтобусных ліній, такім чынам даючы жыхарам ваяводства сур'ёзную прапанову для грамадскага транспарту, — падкрэсліў намеснік міністра Рафал Вебер. — Я перакананы, што гэтыя лініі будуць выкарыстоўвацца для бяспечнай і камфортнай камунікацыі не толькі са сталіцай ваяводства. Гэтыя лініі спалучаюць сталіцы розных паветаў і гмін, шырока размешчаных на Падляшшы і вось так павінна выглядаць вельмі добрая прапанова па перавозах.

Сенатар з Падляшша Яцэк Багуцкі падзякаваў міністру інфраструктуры за тое, што ў яго дастаткова грошай не толькі на галоўныя нацыянальныя маршруты, але і на меншыя, але важныя для мясцовых жыхароў дарогі. Ён падкрэсліў важнасць супрацоўніцтва паміж цэнтральнай і мясцовай адміністрацыяй.

— Супрацоўніцтва, пачынаючы з вышэйшага ўзроўню, ад прэзідэнта, праз урад, парламент і органы мясцовага самакіравання: ваяводства з маршалкам, паветы, гміны, гарады — гэта тое, што стварае і дазваляе змагацца з каранавірусам у цяжкія часы, каб грошай хапіла на бягучыя і інвестыцыйныя выдаткі.

Маршалак Касіцкі заявіў, што абноўленыя лініі — не апошняе слова мясцовага самакіравання Падляшша адносна камунікацыі ў рэгіёне:

— Гэта толькі пачатак. Я спадзяюся, што ў гэтай складанай сітуацыі нам удасца развіваць суполку PKS Nova, якая з'яўляецца нашым „вочкам у галаве" і вельмі важная з пункту гледжання забеспячэння асноўных патрэб жыхароў рэгіёна.

Кантракт будзе выконваць PKS Nova да канца 2020 года. Падляшша — адно з першых ваяводстваў, якія рэалізуюць такую праграму, і аўтобусы вернуцца на дарогі. Аўтобусы вернуцца на маршруты:

Беласток — Гайнаўка, праз Кур'яны, Заблудаў, Нарву, Храбустоўку, Трывежу, Дубіны;
Беласток — Ганёндз, праз Кнышын, Крыпна, Чахавізну, Монькі;
Беласток — Шацілы, праз Агароднічкі, Супрасль, Пачапок, Шудзялава, Крушыняны;
Сувалкі — Беласток, праз Ліпск, Саколку;
Пуньск — Сувалкі, праз Смаляны, Калетнік;
Сейны — Саколка, праз Аўгустаў, Беласток;
Сувалкі — Сейны, праз Краснаполь, Вігры;
Сейны — Саколка, праз Сувалкі, Беласток;
Ломжа — Белавежа, праз Візну, Завады, Яжэва-Старое, Тыкоцін, Харошчу, Беласток;
Граева — Сувалкі, праз Падхаінкі, Райгруд, Навінку, Аўгустаў;
Граева — Беласток, праз Ганёндз, Монькі;
Кольна — Гонёндз, праз Ломжу, Візну, Завады, Яжэва Старое, Тыкоцін, Харошчу, Беласток;
Беласток — Сямятычы, праз Клюковічы, Зубачы, Чаромху, Гайнаўку, Трывежу, Нававорніна;
Цехановец — Беласток, праз Браньск, Лапы;
Цехановец — Сямятычы, праз Перляева;
Замбраў — Шацілы, праз Руткі-Касакі, Яжэва-Старое, Беласток, Супрасль, Крушыняны;
Беласток — Замбраў, праз Бакіны, Саколы, Высокае-Мазавецкае;
Замбраў — Кольна, праз Чырвоны Бор, Ломжу, Малы Плоцк;
Чаромха — Беласток, праз Бельск-Падляшскі;
Бельск-Падляшскі — Гайнаўка;
Бельск-Падляшскі — Сямятычы.

**(лук)**

## Выкарыстоўвайце бытавыя адходы экалагічна

**Лупіна ад банана** — на тлю (мшыцы). Тля любіць агароды як адкрыты бар... Гэтыя кузуркі сапраўды могуць дакучаць раслінам. Але напалохаюць іх... бананавыя лупіны! Проста нарэжце іх нажом і ўціснíце ў зямлю побач з заражанымі раслінамі, і тля ўцячэ.

**Яечныя шкарлупіны** — на слімакоў. Пакрышыце яечныя шкарлупіны і пасыпце імі глебу, і ад слімакоў не будзе... слізкага знаку. Акрамя таго, шкарлупіны дададуць у глебу кальцыю.

**Кававая гушча** — для паляпшэння якасці глебы. Рэгулярна пасыпайце ёю ў тых месцах, калі расліны не хочуць расці. У кававай гушчы ёсць фосфар, калій і магній, але яны павышаюць узровень кіслотнасці, таму не сыпце яе каля азалій і гартэнзій.

**Шкарлупіны арэхаў** — як культыватар. Шкарлупіны арахісу і фісташак (пістацый) з'яўляюцца добрым дадаткам да зямлі, паколькі яе разрыхляюць. Не забудзьцеся спаласнуць іх ад солі, пакуль укінуць у зямлю, таму што соль можа нанесці шкоду раслінам. УВАГА: Шкарлупіна грэцкага арэха таксічная!!! **(лук)**

## Адгаданка

**1.** востраў на ўсходзе Міжземнага мора, **2.** самакіраванне, **3.** „галосны" горад на ўсходзе Магілёўскай вобласці, **4.** вострая заразная хвароба, „чорная смерць", **5.** айчына, **6.** установа для паказу акрабатаў, клоўнаў, прэстыдыжытатараў, **7.** ганаровае месца ў хаце пад абразамі, **8.** амерыканскі штат між Ціхім і Ледавітым акіянамі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | | | | | | |
| | | | | | | | | 3 |
| | | 4 | | 5 | 6 | | | |
| | | | | | | | | 7 |
| | | | 8 | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 24 нумара**

Саратаў, квас, двор, цаля, Японія, смурод, каша, Дэкалог, чын, Данія, ген, рыс, Бона, смятана, шырыня, саўгас, горад, іней, паравоз.

Рашэнне: **Цяпер складаны час для гумарыстаў бо ўрад смяшнейшы за нас**.

# 12.07 — 18.07

**(22.03. — 20.04.)** 12-14.07. выкарыстаеш сваю ўяву і здольнасць прадбачання. 13-17.07. гарачыя рандэву. На працы можаш адчуць фрустрацыю з-за таго, што цябе гучна не хваляць. 12-17.07 лепш не ідзі ў іншае месца работы. Хутка і спраўна паафармляеш усе справы. Можаш вярнуць сабе страчанае. Пільнуй здаровую дыету.

**(21.04. — 21.05.)** Ажыццяўляй свае планы. У галаве ў цябе перш за ўсё зараблянне грошай. Хоць твае інтэлектуальныя каштоўнасці немалыя ды добрыя рысы характару, задбай і пра сваю красу, перагляньі дапоўні свой гардэроб. На працы, хаця будзе нервова вакол цябе, тваёй пазіцыі нічога не пагражае. Цешся кожнай хвілінай.

**(22.05. — 22.06.)** Возьмеш справы ў свае рукі і давядзеш іх да ўдалага канца. Да 14.07. нішто не перашкодзіць твайму лагічнаму і практычнаму мысленню. 14-18.07. твая эластычнасць, незалежнасць і сучаснасць у дзеяннях выдатна паможа табе ў прафесійным поспеху. На рабоце дастанеш ветру ў ветразі. Можаш шмат зарабіць. Лепш адмаўляйся ад салодкага.

**(23.06. — 23.07.)** 12-14.07. развівай свае мастацкія захапленні. 12-14.07. удасца пазбегнуць паслядоўнасці сваёй памылкі. 13-17.07. не дай сябе ўцягнуць у змаганне сярод мацнейшымі; навучыся казаць «не». Будзеш клапатлівы, апякунскі, добры для іншых. 12-16.07. канкурэнцыя схоча падставіць табе нагу; будзь пільны — абернеш гэта супраць іх. Агарні сваё цела чуласцю і клопатам. Можаш зрабіць штосьці непаўторнае.

**(24.07. — 23.08.)** 12-14.07. адчуеш шчасце і задавальненне ад таго, што маеш. Услухайся ў сваё здароўе. Не ашчаджай на лекарах! На працы атрымаеш шанц увядзення ў жыццё піянерскіх ідэй. Закаханымі Львамі лёгка цяпер маніпуляваць. У жыццё самотных Ільвоў укрочыць нехта новы; хаця спачатку можа табе не спадабаецца, але гэтая сувязь будзе мець вялікі патэнцыял. На працы будзеш баявіты, але будзь асцярожны і думай цвяроза. Канкурэнцыя схоча праверыць, ці маеш туза ў рукаве; будзеш мець саюзнікаў, якія змогуць нават пазычыць табе касу. Пастаў на лячэбныя зёлкі.

**(24.08. — 23.09.)** Развінеш свае зацікаўленні, сустрэнеш цікавых людзей. Зоркі спрыяюць новым мерапрыемствам. Калі былі страты ў тваім бізнесе, адробіш іх. Трэба будзе схадзіць да акуліста. Твая прафесійная пазіцыя настолькі моцная і абы-хто яе не падкапае. Зоркі навучаць цябе ўшанавання для дробных і на выгляд малаважных спраў. Нанова ўстановіцца іерархія каштоўнасцей.

**(24.09. — 23.10.)** Усяго дасягнеш, але запануй над эмоцыямі, якія будуць катлавацца. Гэта не час, каб здабываць новыя рынкі і прапановы. Прыдадуцца затое дысцыпліна і засяроджанне. Паявяцца ўсё ж новыя перспектывы. Сябры зайздросцяць табе поспехаў. Рэкламуй свае паслугі ці прадукты. У фінансах стабільна, не ўбачыш дна ў кашальку. 13-17.07. старыя канфлікты і прэтэнзіі вернуцца з поўнай моцай. Схочацца пабыць аднаму. Не загарай задоўга на сонцы.

**(24.10. — 22.11.)** Знікнуць стрэсы і турботы. Зоркі шыкуюць табе многа цікавых прапаноў і памогуць табе іх выбраць. Цешся тым, што маеш. Многа будзе адбывацца вакол цябе. На працы папхнеш наперад найважнейшыя справы. Але цяжка будзеш зносіць крытыку (асабліва 13-17.07.), выявіцца працівнік, што цікаваў за спінай. Пі напар з хвошчкі. Скарпіёны, асабліва з III дэкады, патрабуюць больш руху.

**(23.11. — 22.12.)** Перастанеш вагацца і аглядвацца за сабой. Дасканалая інтуіцыя дасць табе ўнікнуць у справы, незразумелыя для іншых. Пакуль не ідзі наперад з незавершанымі праектамі. У фірме ты моцны з калектывам. Адкрыюцца перад табой новыя магчымасці і ўдасца зусім выпадкова зрэалізаваць штосьці здаўна для цябе важнае. Самотны Стралец няхай выкарыстае сваю папулярнасць.

**(23.12. — 20.01.)** Будуць добрыя нагоды, каб упарадкаваць старыя справы, а таксама змабілізаваць іншых да эфектыўнай працы. Могуць прынесці прыбытак грошы інвесціраваныя калісьці. 13-17.07. сустрэча больш чым сямейная (змаганне за ўплывы, маёмасць?). На працы цябе дацэняць, пахваляць, 12-16.07. пагавары з шэфам пра павышэнне, пры моцных аргументах даб'ешся таго, чаго хочаш.

**(21.01. — 19.02.)** Новыя магчымасці, прыліў энергіі і творчых сіл. На працы падвучышся, падшліфуеш мову, запішыся на 13-17.07. змераеш сілы з уласнымі траўмамі; памятай, смех — найлепшае лякарства. З нічым не пераборшчвай.

**(20.02. — 21.03.)** Цверазей ацэніш сітуацыю. 12-14.07. пазнаёмішся з кімсьці, хто многа зменіць у тваім жыцці. Пільнуйся: 13-17.07. можаш беззваротна страціць чыйсьці давер. Хопіць табе веры ва ўласныя магчымасці, неабходнай, каб здзейсніць свае мары, напрыклад, аб лепшай пасадзе. Але не праводзь часу дацямна і ў выходныя ў фірме! На найлепшыя задумы натрапіш у час адпачынку! Не катуй сябе галадоўкай!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Як Панам[ерыкан]скі канал

**Панамскі канал паміж Ціхім і Атлантычным акіянамі быў пабудаваны ў 1881-1914 гадах. Але не пра яго, і не пра Амерыку тут пойдзе мова, а пра іншыя камунікацыі...**




Яшчэ паўгода таму можна было з раніцы выбрацца з цяперашняй сталіцы Падляшскага ваяводства ў колішнюю, значыць у напрамку Драгічына, і дабрацца туды ў даволі прыстойную пару. Ну, але ж жыццё не стаіць на месцы — *pantha rei* — усё плыве, як гаварылі старажытныя грэкі. Гэтак жа і наш публічны транспарт, які ўсё больш і больш згортваецца. Бо згортваецца насельніцтва з нашых мясцовасцей — адпраўляецца за Стыкс або ў больш шырокі свет і на публічным транспарце штораз менш карыстальнікаў. Па правілах эканомікі згортванне попыту цягне за сабою і згортванне прапановы; у нашым выпадку — транспартнай. А яшчэ і апошнія эпідэміялагічныя абмежаванні дадаткова выштурхнулі частку маршрутаў у адсутнасць...

Закарцела мяне з'ездзіць у Слохі-Аннапольскія на гадавіннае набажэнства ў памяць жыхароў вёскі, якія сталі ахвярай ваеннай пажадлівасці. Можна было б з Беластока поездам, на чыгуначную станцыю Сямятычы, адкуль да Слох каля сямі кіламетраў. Пехатою дабраўся б я на разбор шапак. Можна было б цягнуць з сабою веласіпед, тады паспеў бы ў пару. Але цяпер байкераў штораз больш, у тым ліку і ў цягніках — і магло б здарыцца так байкалюдна, што немагчыма было б забрацца... Але ў самыя Слохі можна ў прыстойную пару дабрацца аўтобусам з... Варшавы; у 7.15 з Усходняга вакзала на 10.20 у Слохі.

Сорак гадоў таму ездзіў я ў Варшаву рознымі маршрутамі і спадзяваўся, што і цяпер мой аўтобус пакалясіць па адной з іх, магчыма па найкарацейшай — цераз Сулеювак, Добрае і Венграў. А ён шпарыць на Тарэспаль. Перад Мінскам-Мазавецкім заўважаю будову зусім новай дарожнай магістралі. І зусім выпадкова засацыявалася яна мне са славутай „алімпійкай", пабудаванай паміж Берасцем і Масквою пад маскоўскую алімпіяду ў 1980 годзе. Падумалася мне, што пабачаная мною навінка з'яўляецца такім транс'еўрапейскім прадаўжэннем колішняга алімпійскага подзвігу...

Вярнуўшыся дадому заглянуў я ў сеціва, спадзяючыся багатых інфармацый пра савецкі дарожны, на той час даволі мадэрны, подзвіг у Беларусі. Але там пра беларускую „алімпійку" маўчок. Затое ў Вікіпедыі артыкул пра „алімпійку"... польскую! Алімпійская магістраль была задумана ад Масквы аж у Берлін. І ў Польшчы пачалі яе размашыста будаваць, але толькі крыху заходняй часткі польскага адрэзка, недзе між Варшавай і Познанем. Высеклі крыху лесу, паставілі некалькі эстакадных апор і... на тым закончылі.

А яшчэ раней, у 1930-х гадах немцы ў рамках свайго аўтастраднага будаўніцтва сплянавалі аўтастраду з Берліна ў Познань. У 1937 годзе адкрылі адрэзак з Берліна ў Франкфурт-на-Одэры. У 1939 годзе, пасля ўключэння Познаня ў Рэйх, сталі будаваць далей, але ў выніку ваенных нястач спынілі будаўніцтва ў 1942 годзе...

Да будовы сучасных аўтадарог маскоўская дзяржава прыступіла толькі ў 1930-я гады. Тады ў Савецкім Саюзе адзін самаход лічыўся на больш чым паўтары тысячы насельніцтва, у Германіі на пяцьдзясят чалавек, а ў ЗША на пяць... У 1935 годзе ў СССР было вырашана пабудаваць 38 аўтамагістралей, аднак рассеянне вельмі сціплых сродкаў на столькі інвестыцый вельмі запаволіла будаўніцтва і яго якасць; у прынцыпе было так, што калі будаваўся чарговы адрэзак новай дарогі, раней пабудаваны выходзіў са строю. Падсыпка была слабенькая, работа выконвалася па сутнасці ўручную рукамі вязняў гулага, часткова прыцягваліся да яе і навакольныя калгаснікі. У выніку ў момант завяршэння работ на апошнім адрэзку ўся дарога была ўжо непрыгоднай... Тады было прынята рашэнне засяродзіць сілы і сродкі на найбольш прыярытэтных напрамках, у ліку якіх апынулася і дарога між Масквой і Мінскам.

Маскоўска-мінская дарога паводле пачатковай задумы мела быць якасна парытэтнай заходнім аўтабанам, але не было на такое грошай. Таму распрацоўваліся чарговыя яе варыянты, усё больш танныя. Канчатковы праект быў прыняты толькі ў 1938 годзе. На будову дарогі было прыцягнута каля сямі адсоткаў усіх вязняў гулага, але і гэтага было мала. Не было дастатковай колькасці патрэбнага транспарту і на транспартных вузлах узніклі заторы. У пачатку гэтай будовы працавала на ёй крыху за дваццаць трактароў і тры экскаватары. Зямлю перамяшчалі тачкамі і на насілках... Будова магістралі была спынена ўвесну 1941 года пад подыхам вайны. Ваенныя дзеянні разбурылі найбольш важныя вузлы дарогі; пасляваенная адбудова доўжылася да 1955 года.

З 1961 года праводзілася паступовая мадэрнізацыя мінска-маскоўскай аўтадарогі. Новы рэзкі штуршок яе абнаўленню далі маскоўскія алімпійскія гульні 1980 года — яна мела стаць галоўным шляхам для прыезду замежных турыстаў. Шлях праектаванай „алімпійкі" працягнуўся далёка за Мінск, у Берасце...

Мінула некалькі гадоў пасля маскоўскай алімпіяды, наступілі эканамічныя перамены, а ў след за імі вырасла і нагрузка на галоўным еўрапейскім напрамку. Зноў неабходнай аказалася мадэрнізацыя... І вярнулася ідэя трансканцінентальнай магістралі. Цяпер яна атрымала названне магістралі Е30. Вікіпедыя: „Еўрапейскі маршрут, які праходзіць ад горада Корк у Ірландыі праз Вялікабрытанію, Нідэрланды, Германію, Польшчу, Беларусь да Омска ў Расіі. Асноўныя пункты маршруту: Корк — Уэксфард — Суонсі — Кардыф — Ньюпарт — Брысталь — Лондан — Гаага — Утрэхт — Амерсфарт — Хенгела — Оснабрук — Меле — Гановер — Магдэбург — Берлін — Франкфурт-на-Одэры — Познань — Варшава — Брэст — Мінск — Масква — Разань — Пенза — Сызрань — Жыгулёўск — Тальяці — Уфа — Міяс — Чалябінск — Курган — Петрапаўлаўск — Омск". Пан'еўрапейскі маршрут на захадзе перасякае Ірландскае і Паўночнае моры і там пойдзе ён на паромах. А на ўсходзе, за Уралам, даходзіць да азіяцкай транссібірскай магістралі АН6, якая вядзе ў карэйскі Пусан на Японскім моры...

Зараз у нашай краіне будуецца аўтастрада А2 па тым самым маршруце, па якім мелі пайсці колішняя нямецкая аўтабан і польская „алімпійка". Старыя апоры выкінулі, падмяняючы іх новымі. А на ўсход ад Варшавы ўсё па-новаму. Ад Мінска-Мазавецкага да Калушына — прыблізна — аўтастрада ўжо пабудавана ў абход гарадоў. Не ведаю, ці той адрэзак здадзены ў карыстанне, бо „мой" аўтобус ехаў па старой дарозе — да Калушына, а адтуль павярнуў у напрамку Венграва. 4 чэрвеня 2014 года, у 25-ю гадавіну парламенцкіх выбараў 1989 года ў Польшчы, аўтастрада атрымала названне „Аўтастрады свабоды"; адмысловае табло за Варшавай адкрылі тады ўрачыста польскі прэзідэнт Браніслаў Камароўскі і нямецкі Яахім Гаўк...

Пару кіламетраў за Калушынам аўтобус з'ехаў з галоўнай, як мне паказвалася, на нейкую бакавую дарогу. Асфальтавая паласа там вузкая, пакручастая; быў нават адрэзак жвіроўкі. Нядоўга, неўзабаве зноў стандартная павятовая асфальтоўка. У Грэмбкаве падышла да аўтобуса пажылая жанчына, пытаючы вадзіцеля, чаму няма аўтобуса ў напрамку Варшавы, пра які яна даведвалася ў саколаўскага дыспетчара. Аказалася, што той аўтобус едзе па іншым маршруце, раскладным; жанчына была распытала пра яго вельмі агульна...

Са Слох у Сямятычы пайшоў я на сваіх дваіх — пяць кіламетраў. Дарога гібрыдная — частка з асфальтавым, частка са жвіровым насцілам. У Сямятычах — *novum*! Няма ўжо там аўтобуснага вакзала — Państwowa Komunikacja Samochodowa ў нашым ваяводстве прайшла рэструктурызацыю; няма вакзальнага будынка, яшчэ дзесяць-дваццаць гадоў назад даволі люднага. На месцы адпраўных перонаў зараз невялікі гандлёвы павільён з моднымі брэндамі. Шукаю адпраўных стаянак, адкуль мае ад'ехаць аўтобус у Беласток. Прыстойных стаянак, з лаўкамі і паветкамі для пасажыраў. Абышоў я той павільён кругом, а прывычных стаянак ні віду, ні слыху. Спытаў я шпацыруючую маладую сямейку пра адпраўное месца загарадных аўтобусаў, але яны, маладыя людзі, не ведалі. Падышоў да ларка з марозівам, спытаў маладую дзяўчыну ў белым халаце і яна паказала — з другога боку гандлёвага павільёна. І сапраўды — былі там два „канверты" для аўтобусаў; і нават два шосцікі з прыпынкавымі знакамі. Але ўжо іншымі чым колішнія пэкаэсаўскія — не было на іх знакавага кола з трыма спіцамі. Не было таксама ні лавачкі, ні паветкі для пасажыраў. Пры першым шосціку да шыбы павільёна была прыклеена картачка з раскладам аўтобусаў. Чарговая рэструктурызацыя можа прывесці да лёгкага знікнення і гэтых шосцікаў — астанецца толькі сам храм камерцыі... З Сямятыч зараз выязджае каля дзесяці „пэкаэсаўскіх" аўтобусаў: два ў Вычулкі, два ў Сычы, адзін у Клюковічы, адзін у Варшаву і чатыры ці пяць у Беласток. У Варшаву, Люблін, Беласток некалькі аўтобусаў іншых фірм са сціплай стаяначкі па вуліцы Гродзенскай. А ў апошнія, менш мадэрныя напрамкі? Недалёка, па той жа Гродзенскай вуліцы ёсць стаянка таксі — наймай і едзь. А там жа і дзве лавачкі пад чыстым небам: пад сонейкам, месячыкам, хмаркамі праліўнымі — такая „пачакальня"...

Беластоцкага „пэкаэсаўскага" аўтобуса чакала жменька пасажыраў. Радасці ад стаяння ў спёку не было. Было затое абурэнне на ліквідацыю аўтобуснага транспарту, на адсутнасць павагі да пасажыраў. Бо як дабрацца нямогламу чалавеку з апусцелай вёскі ў горад, да лекара. Пішучы гэтыя радкі навеялася мне думка, ці ў эпоху мабільных крамаў не запусціць мабільных амбулаторый — калі б знайшоўся персанал...

Была нагода панаракаць больш. У новым гандлёвым павільёне мае быць абутковы магазін. Мужчына ў чарзе паказаў сандалі на нагах. Сандалі са скуры, і цана іх пакупкі была адпаведная скурным. Але падэшвы са „styropianu"; абедзве пераламаныя, але верх — са скуры — трымаецца выдатна. Зверху шык, знізу пшык. Мужчына каліс, яшчэ ў дзевяностыя гады, купіў на базары ў „рускіх" гумоўцы — трымаюцца да сёння. Але ў міжчасе захацелася яму купіць такія ж, каб мець у запасе. Купіў у краме — па двух гадах рассыпаліся.

Іншы мужчына: купіў боты ў Германіі, у Мюнхене. Прыехаў у Седльцы, зайшоў у магазін, а там такія ж боты, удвая таннейшыя. А тыя дарагія мюнхенскія боты таксама хутка разлезліся.

Жанчына: занесла абутак да шаўца. А ён паглядзеў, сказаў, што рамонт будзе каштаваць дваццаць злотаў і параіў купіць новыя, кітайскія, за трыццаць злотаў.

Ёсць яшчэ ў нас простыя добрыя людзі, гатовыя даць бескарысную практычную параду. А да гэтага нашы высокія вярхі вяшчаюць, што дзякуючы ім жывецца нам прыпяваючы. Бо ці ж у мінулым хто калі ў нас падумаў пра аўтастраду ад Атлантычнага па Ціхі акіян?..

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 28